**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**№46(658)**
**15 лістапада 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

**Мосар перажыў навэнну за памерлых.**
*Працяг тэмы на стар. 6*



Молодечненские
ОКНА ПВХ
АЛЮМИНИЕВЫЕ РАМЫ + МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ ДВЕРИ
НЕМЕЦКИЙ ПЛАСТИК FORIS (Германия 100%) без свинца
Профессиональный монтаж
Собственное производство
тел. 8 (029) 641-62-94 (velcom); 8 (029( 857-35-43 (мтс)
ООО "Рекомпласт" г. Молодечно, УНП 690450197

# Прыродаахоўная акцыя на Глыбоччыне

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**6 лістапада 2012 года ў Глыбоцкім раёне ў рамках праекта ПРААН/ГЭФ «Інтэграцыя пытанняў захавання біяразнастайнасці ў палітыку і практыку тэрытарыяльнага планавання ў Беларусі» ў возера Белае і Млічына выпушчана 300 асобінаў рака шыракапалага.**

У дадзенай акцыі прынялі ўдзел старшыня Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта Морхат А.В., начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету Протас А.В., прадстаўнікі розных прыродаахоўных ведамстваў, арандатары вадаёмаў, навучэнцы Псуеўскай і Зябкаўскай школ раёна.

**Рак шыракапалы з** 1981 **года ўключаны ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, у Міжнародную чырвоную кнігу як від, якому пагражае знікненне.**

Выпушчаныя ў азёры Глыбоцкага раёна папуляцыі шыракапалага рака могуць стаць маткавымі для работ па захаванні гэтага віду ў Беларусі. Наш раён стаў першым і пакуль адзіным на тэрыторыі рэспублікі, дзе па праекце міжнароднай арганізацыі праведзена дадзеная акцыя.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету нагадваюць жыхарам і гасцям раёна, што лоўля рака шыракапалага забаронена цэлы год, бо дадзены від занесены ў Чырвоную кнігу, у выпадку вылоўлівання рака шыракапалага грамадзяне нясуць адміністрацыйную або крымінальную адказнасць, у залежнасці ад сумы нанесенай шкоды. Так, сума шкоды за адну незаконна вылаўленую асобіну рака шыракапалага складае 600 тысяч рублёў, такім чынам, за вылоўліванне сямі асобінаў рака шыракапалага настае крымінальная адказнасць, шкода перавышае 40 базавых велічынь.

**Увага!** Таксама забаронена лоўля рака вузкапалага з 15 кастрычніка па 15 ліпеня штогод. За незаконную лоўлю рака вузкапалага прадугледжана адміністрацыйная і крымінальная адказнасць, а шкода за адну асобіну вылаўленага рака вузкапалага складае 150 тысяч рублёў.

Падчас правядзення акцыі па запуску ў азёры раёна рака шыракапалага інспектарамі была атрымана інфармацыя ад грамадзян, што на возеры Ласіцкае Пастаўскага раёна невядомы грамадзянін усталяваў браканьерскія сеткі. Пасля сканчэння акцыі інспектары неадкладна выехалі на ўказаны вадаём і каля 22 гадзін затрымалі жыхара в. Казлоўшчына Пастаўскага раёна, які трыма сеткамі вылавіў карасёў срэбных і акунёў рачных. Матэрыялы на парушальніка накіраваны ў раённы суд.

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: «гарачая лінія» 8-02156-2-86-70, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.



Шыракапалы рак.

СТА ПУП «Аўта-забота», УНП 390389856
ШЫНАМАНТАЖ
на Прамысловай, 15
штодня з 8⁰⁰ да 18⁰⁰, выхадны – нядзеля
тэл.: 8 (029) 299-13-64; 2-65-94

Торговый центр «Для Вас» УНП 391059466
ИП Савицкая А.С.
СТОК – новая стильная одежда!
Новые, фирменные стоки каждую неделю!
Самые известные европейские бренды!
мтс: 513-19-86

ПУП «РАМАН МКТ» УНП 390494055
крама КАЗІМІР
на Чырвонаармейскай, 39
гума зімовая
акумулятары
аўтазапчасткі для ўсіх іншамарак
тэл.: (02156) 2-80-70; (029) 716-48-11

Рэклама ў газеце «ВГ», тэл.: 8(029) 813-99-99

Частное торговое унитарное предприятие "Хорс-Моторс" УНП 190849085
МОТОТЕХНИКА
САДОВО-ПАРКОВАЯ ТЕХНИКА
СТРОИТЕЛЬНАЯ ТЕХНИКА
АКСЕССУАРЫ
И ЗАПАСНЫЕ ЧАСТИ
СЕРВИС
WWW.VALES.BY WWW.MOTO-MINSK.BY
ВСЕ ТОВАРЫ В КРЕДИТ!!! БЕЗНАЛИЧНЫЙ РАСЧЕТ!!!
Г. ГЛУБОКОЕ, УЛ.ГАГАРИНА, 4, РЫНОК ОДО "ВЕРАС"
8 (033) 320-82-02

ІП Чубінскі Е.Г.; УНП 391050215
магазін «Фаварыт»
мтс: (029) 732-73-00; мтс: (029) 539-73-00
на Маскоўскай, 10, 2-гі паверх
- камп'ютары,
- ноўтбукі,
- камплектуючыя,
- аргтэхніка,
- аксесуары,
- рамонт і абслугоўванне,
- запраўка і рамонт картрыджаў
- фотаапараты, – ВК тэлевізары
Без % крэдыт

магазин на Ленина, 7-А
ИП Кравец Е.К., УНП 390487450
ABC
в наличии и под заказ
НОУТБУКИ
Asus, Dell, Lenovo, Samsung. Всегда в наличии 15-20 моделей.
А также цифровые фотокамеры, навигаторы, бытовая техника.
Оформление кредита на месте до 2 лет без первого взноса.
2-11-55

ІП Раманчук Д.С. магазін «Крышталь» УНП 300018852
на вул. Леніна, 114-А
Вокны ПВХ
Алюмініевыя балконныя рамы
Дзверы металічныя і міжпакаёвыя
Шафы-купе па індывідуальных заказах
высокая якасць, нізкія кошты, зніжкі
замер, дастаўка, устаноўка, без % растэрміноўка аплаты
мтс: (029) 716-28-26

УНП 300237891
Сапоги ПВХ
телефон: (029) 683-57-30 (вел)
• мужские от 100 тыс. руб; • женские от 80 тыс. руб
костюмы (камуфляж) от 150 тыс. руб.
бушлаты от 250 тыс. руб
сапоги кирзовые, берцы
Наличный, безналичный расчёт. Доставка
сапоги белые для мясо-молочной промышленности

СТЕЦКЕВИЧ
СПЕЦОДЕЖДА
ФИЛИАЛЫ ПО ВСЕЙ РЕСПУБЛИКЕ
(02156) 26 989
ул. Железнодорожная, 14
ГЛУБОКОЕ
www.uniform.by
СООО "СТЕЦКЕВИЧ-СПЕЦОДЕЖДА"
УНП 190716044

### Полацкі раён

# Па законах рынку

■ Чэслаў Якубовіч

**Хоць і са скрыпам, але прыватны бізнес у глыбінцы паступова расчышчае сабе дарогу і часам выцясняе з рынку традыцыйных паслуг ранейшых манапалістаў.**

Неспадзявана для многіх у Полацкім раёне на вядучыя пазіцыі па арганізацыі пасажырскіх перавозак выйшла прыватнае аўтатранспартнае прадпрыемства "Заходняя губерня". Акрамя яго на правах франчайзінга, выкарыстоўваючы заходні вопыт, сумесна працуюць яшчэ 3 прыватныя фірмы і 5 індывідуальных прадпрымальнікаў са сваімі аўтобусамі. У выніку канкурэнцыю з ім не вытрымалі дзяржаўныя аўтапаркі з Полацка і з суседняга Наваполацка, бо прыватнікі прапанавалі лепшыя для пасажыраў умовы. Усяго за 3,5 гадзіны цяпер адсюль можна даехаць з камфортам у Мінск і па меншых крыху па кошце білетах. "Заходняя губерня" мае сваю дыспетчарскую службу і падстрайваецца пад людзей, прымаючы заяўкі на паездкі ў патрэбныя ім месцы ў агавораны час, прымяняючы гібкі графік руху. Да таго ж фірма арганізавала рэйсы і ў краіны СНД, да бліжэйшых суседзяў у Еўропе, прымяняючы індывідуальную заходнюю схему перавозак. Самі пасажыры вызначаюць, колькі патрэбна арганізаваць рэйсаў у канкрэтны дзень тыдня, на выхадныя летам, калі павялічваюцца аб'ёмы пасажыраў. Па папярэдніх заяўках людзей прыватнікі легальна, маючы ліцэнзіі на перавозкі, могуць і забраць пасажыраў у другім горадзе ў вызначаным месцы. Па такой схеме садзяцца пасажыры ў аўтобусы і адсюль, калі забраніруюць паездкі. Па шэрагу маршрутаў насельніцтва канчаткова зрабіла выбар на карысць прыватных перавозчыкаў.

### Пастаўскі раён

# Пабудуемся – будзем жыць

■ Кастусь Александровіч

**Да леташняга крызісу паўсюдна на Віцебшчыне раслі шпарка аб'ёмы жыллёвага будаўніцтва.**

Вось і ў Паставах за кароткі тэрмін у новым мікраараёне па вуліцы Юбілейнай адзін за другім паўсталі адразу 7 новых шматпавярховак. Аднак затым пачаўся значны адток кадраў з вядучай бударганізацыі трэста "Полацксельбуд", мясцовай аграбудфірмы "Рассвет Пастаўскі". Яшчэ летась было замарожана ўзвядзенне новага 60-кватэрнага жылога дома ў райцэнтры. Калі раней такія шматпавярхоўкі тут будавалі за паўгода, то цяпер тэмпы работ замарудзіліся і гэта новабудоўля, праўда, будзе здадзена шчаслівым навасёлам ў канцы года. На шчасце, зусім без спраў калектыў не застаўся і сёлета пабудаваў яшчэ 12-кватэрны жылы дом у буйнейшай гаспадарцы краю "Камайскі-агра". Таксама летам бударганізацыю папоўнілі 23 маладыя спецыялісты-будаўнікі. Для іх і вопытных кадраў фірмы аб'ектаў пакуль хапае. Вельмі значны аб'ём падрадных работ выкананы на ўзвядзенні першай чаргі новага корпуса дома-інтэрната для састарэлых і інвалідаў у мястэчку Дунілавічы. Акрамя адміністрацыйных памяшканняў за сродкі рэспубліканскага бюджэту там падрыхтавалі да здачы спальны корпус на 105 месц. Да 2 млрд. рублёў выходзіла штомесяц і на адказнай будоўлі ў горадзе – на новым міні-заводзе па вытворчасці цвёрдых сыроў Пастаўскага малочнага завода. Ёсць пэўная перспектыва ў мясцовых будаўнікоў і на наступны год: паблізу ваеннага шпіталя пачынаецца будаўніцтва яшчэ двух шматпавярховак.

### Браслаўскі раён

# Ажывае азёрны край

■ Станіслаў Раманчук

**Цудоўная прырода Браслаўскага раёна вядома ўсёй Беларусі і за яе межамі сваёй дзіўнай прыгажосцю і непаўторным багаццем трохсот буйных азёр, якія займаюць дзясятую частку яго тэрыторыі.**

Аднак у гэтай мясцовасці даволі марудна займаліся, каб выкарыстаць патэнцыял краю для развіцця баз масавага адпачынку людзей на сучасным узроўні. І толькі апошнім часам тут пайшлі патрэбныя станоўчыя змены. У прыватнасці, сталічная фірма банкаўскіх інфармацыйных тэхналогій "МВВ-Трэйд" уклала свае свабодныя сродкі ў турыстычны бізнес. Яна выкупіла сялянскі жылы дом у азёрнай вёсцы Струста. Былі накіраваны 2 млрд. рублёў на стварэнне зоны адпачынку тут на працягу года і абуладкаванне кемпінга. У прывабным стылі на лоне прыроды з'явіліся незвычайныя двухузроўневыя пакоі. Прычым на выбар пастаяльцу прапануецца адпачыць нават у мангольскай юрце альбо ў двух сапраўдных індзейскіх вігвамах. Ужо мінулым летам асалоду ад знаходжання тут ацанілі першыя гараджане і ўсе адпачываючыя засталіся вельмі задаволеныя. Многія прыязджалі цэлымі сем'ямі, бо для малых дзяцей пабудавалі дзіцячую гульнявую пляцоўку ў выглядзе сапраўднага карабля вікінгаў. Яшчэ адна сталічная фірма ўзвядзе на Браслаўшчыне гандлёва-забаўляльны цэнтр з дзіцячым кафэ і боўлінгам. Турэцкая кампанія пабудуе элітны начны клуб і яхт-клуб. Нават Відзаўскі дзяржпрафтэхкаледж у выкупленых старых складах 1770 года пабудовы задумаў узвесці свой турыстычны комплекс "Заезны двор".

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 15.11.12 | | | | Пятніца 16.11.12 | | | | Субота 17.11.12 | | | | Нядзеля 18.11.12 | | | | Пнд.19.11.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +3 | +3 | +2 | +3 | +4 | +6 | +5 | +3 | +3 | +4 | +2 | 0 | +1 | +2 | +1 | 0 | +2 | +4 |
| Ціск | 754 | 752 | 748 | 747 | 749 | 751 | 752 | 753 | 754 | 754 | 755 | 754 | 754 | 753 | 752 | 751 | 750 | 749 | 749 |
| Вільготнасць | 84 | 81 | 69 | 82 | 95 | 94 | 87 | 91 | 95 | 95 | 85 | 91 | 90 | 90 | 79 | 91 | 94 | 94 | 92 |
| Вецер м/сек | 5 З | 6 Пд-З | 6 Пд-З | 5 З | 4 З | 5 З | 3 З | 2 Пд-З | 2 Пд-З | 3 Пд-З | 1 Пд | 3 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 5 Пд | 5 Пд | 5 Пд | 4 Пд | 3 Пд-З |
| | | 08:43 | 17:04 | | | 08:45 | 17:02 | | | 08:47 | 17:01 | | | 08:49 | 16:59 | | 08:51 | 16:58 | |

# Аб самым надзёным

## Рост цэнаў на цыгарэты матывуе беларусаў адмаўляцца ад курэння



■ Паводле Naviny.by

*• У мужчын курэнне павялічвае рызыку імпатэнцыі*

*• Курэнне вядзе да шматлікіх ускладненняў пры цяжарнасці, такім як неданошанае дзіця і змяншэнне здольнасці да дзетараджэння. Цяжарныя жанчыны, якія паляць, часцей пакутуюць дэпрэсіяй.*

*• Пастаянная патрэба ў нікатыне трымае вас на піку нервовага напружання, павялічваючы стрэсы.*

*• Курэнне можа выклікаць рак у органах, якія ўваходзяць у судотык з дымам, такімі, як лёгкія, горла і рот. Так як хімічныя рэчывы з дыму пранікаюць у кроў, рак можа узнікаць у многіх іншых органах.*

У Беларусі прайшла інфармацыйная антытытунёвая кампанія. Яна праходзіла пад дэвізам «Падары сабе чыстыя лёгкія» і працягвалася ў нашай краіне да 15 лістапада - Сусветнага дня некурэння.

Мэты кампаніі - інфармаванне насельніцтва аб наступствах тытунекурэння, яго ўплыў на здароўе, фарміраванне негатыўнага стаўлення да спажывання тытуню, матывацыя да вядзення здаровага ладу жыцця. Лекары лічаць, што каля 30% выпадкаў ішэмічнай хваробы сэрца (ІХС) з'яўляюцца вынікам курэння. Курэнне шматкроць павялічвае верагоднасць смерці, значна ўзмацняючы негатыўны ўплыў іншых фактараў рызыкі сардэчнасасудзістых захворванняў: павышанага ўзроўню халестэрыну ў крыві і артэрыяльнай гіпертэнзіі. Ва ўзросце да 65 гадоў курцы паміраюць ад ІХС у два разы часцей, чым тыя, якія не паляць, а самыя злосныя - у 3,5 разы часцей.

Кіраўнік навукова-даследчай групы па пытаннях дынамікі і прагназавання колькасці насельніцтва Венскага інстытута дэмаграфіі Акадэміі навук Аўстрыі міжнародны эксперт ЮНФПА Сяргей Шчэрбаў адзначыў Naviny.by, што з-за павелічэння долі жанчын, якія кураць, у Еўропе скарачаецца разрыў паміж працягласцю жыцця мужчын і жанчын. Жанчыны жывуць менш. Беларускія медыкі палічылі, што курэнне штогод забірае жыцці каля 15 тысяч нашых суайчыннікаў. Для параўнання, у дарожнатранспартных здарэннях штогод гінуць каля 2 тысяч чалавек.

Актуальнасць праблемы прымусіла задумацца аб заканадаўчым акце, накіраваным супраць тытуню. Чакаецца, што антытытунёвы закон зможа адрэгуляваць у тым ліку і пытанне курэння ў кафэ і рэстаранах, дзе пакуль дым стаіць карамыслам.

У Беларусі ж у дадзены момант курэнне забаронена ва ўстановах аховы здароўя, культуры, адукацыі, спорту, на аб'ектах гандлю і бытавога абслугоўвання насельніцтва, у памяшканнях органаў дзяржкіравання, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, на вакзалах, у аэрапортах, падземных пераходах, на станцыях метрапалітэна. Зонамі, вольнымі ад курэння, абвешчаныя шматлікія гарадскія паркі і скверы.

Тым не менш, амаль палова дзяцей рэгулярна дыхае паветрам, забруджаным тытунёвым дымам, а больш за 40% дзяцей маюць, па меншай меры, аднаго з бацькоў, які паліць. Другасны тытунёвы дым прыводзіць да 600 000 выпадкаў заўчаснай смерці ў год.

Нават тыя людзі, якія выразна разумеюць шкоду тытунекурэння, сутыкаюцца з шэрагам праблем, калі вырашаюць адмовіцца ад яго, у прыватнасці, з недахопам інфармацыі аб месцах, дзе можна атрымаць кваліфікаваную дапамогу. І ў нас у краіне, дарэчы, у цэлым інфраструктура для тых, хто жадае кінуць паліць, развіваецца. Падтрымку, напрыклад, можна атрымаць у наркалагічных дыспансерах, а таксама ў іншых установах. У Беларусі таксама працуе шмат прыватных цэнтраў, дзе прымяняюцца розныя метады для збавення ад тытунезалежнасці.

У апошні час пасля падаражання цыгарэт у цэнтрах стала больш пацыентаў. Шматлікія (у асноўным мужчыны) распавядаюць, што менавіта рост кошту на гэтую прадукцыю стаў вызначальным фактарам, каб паспрабаваць завязаць.

Улічваючы, што з 1 студзеня 2013 года нас чакае новае падаражэнне цыгарэт у сувязі з ростам акцызу, можна зрабіць выснову: хто кіне паліць сёння, зэканоміць заўтра.

Пэўны пласт курцоў аб адмове ад цыгарэт прымушае задумацца, вядома, не цана, а пачынае даваць збоі здароўе. Многія пачынаюць кідаць паліць з таго, што паступова памяншаюць колькасць выпаленых за дзень цыгарэт. Для гэтага павялічваюць прамежкі паміж перакурамі, выкурваць цыгарэту толькі да паловы. Спецыялісты лічаць, што пераход на больш лёгкія гатункі цыгарэт сябе не апраўдвае, так як яны не абавязкова ўтрымліваюць менш шкодных рэчываў і нікаціну. Пэўны эфект ад паступовага адмовы ад курэння на папярэднім этапе можна чакаць для тых, хто паліць больш пачкі ў дзень. І ўсё ж найбольшая верагоднасць дамагчыся поспеху значыць пры адначасовым спыненні курэння.

У любым выпадку, адзначаюць спецыялісты, для таго, каб паспяхова кінуць паліць, самае галоўнае - матывацыя. Чым яна больш важная для чалавека, тым хутчэй верагодны поспех.

## Дзень за днём

**У ходзе перамоў па пастаўках нафты Крэмль прапанаваў Беларусі вярнуць у расійскі бюджэт 1,5 мільярда долараў . У гісторыі сусветнай касманаўтыкі 41-гадовы палкоўнік Алег Навіцкі стаў трэцім беларусам-касманаўтам. Пасля парламенцкіх выбараў рост заробкаў беларусаў рэзка спыніўся, зарплаты ў пераліку на долары ўпершыню з пачатку года нават зменшыліся. Толькі ў Следчым камітэце РБ трапілі пад скарачэнне 34 старшыя афіцэры, з іх нават 15 палкоўнікаў юстыцыі, хутка парадзеюць шэрагі міліцыі і дзяржслужачых. Былы кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў атрымаў палітычны прытулак у Англії.**

# Важнейшыя навіны свету

**Украіна.** Сюрпрызам прайшоўшых выбараў у Вярхоўную Раду стаў нечаканы поспех нацыяналістычнага руху "Свабода", які займеў у парламенце каля 40 дэпутацкіх месц.

**Ізраіль.** На 4 месяцы грамадскіх работ асудзілі былога пасла ў Беларусі Зеева Бен-Ар'е за разгалошванне дзяржтайн і за спробу перашкодзіць следству па справе главы МЗС.

**Расія.** Адзін з багацейшых расіян, бізнесмен Міхаіл Прохараў заявіў аб адыходзе ад спраў і пераключэнне цалкам на палітычную дзейнасць у партыі "Грамадзянская платформа".

**Нігерыя.** Падчас Богаслужэння ля каталіцкага касцёла невядомы баявік-смяротнік у замініраваным джыпе падарваў сябе, загінула 8 чалавек, шмат людзей было паранена.

**Грэцыя.** Каб выйсці з крызісу, ураду краіны ў 2013 годзе трэба скараціць расходы яшчэ на 9,2 млрд. еўра, скараціць пенсіі, заробкі, сацдапамогі і звольніць 25 тысяч дзяржслужачых.

**Англія.** Адна з буйнейшых у свеце тэлекампаній Бі-бі-сі поўнасцю спыніла ў краіне аналагавае вяшчанне і перайшла на лічбавае, пераход коштам 1 млрд. $ заняў 4 гады.

**Францыя.** Званне ганаровага грамадзяніна Парыжа атрымаў беларускі зняволены на 4,5 гады праваабаронца Алесь Бяляцкі, яму пазней уручаць залаты медаль і дыплом мэрыі.

**Польшча.** У сваім доме пад Варшавай знайшлі мёртвым 42-гадовага бортінжынера Р. Муся, асноўнага сведку авіякатастрофы пад Смаленскам, па дадзеных следства, ён павесіўся.

**Літва.** Чарговае сацапытанне беларусаў гэтай восенню вучонымі-сацыёлагамі НІСЭПІ (Вільнюс) паказала, што ў РБ стала болей прыхільнікаў уступлення ў ЕС, чым у Расію.

**Гватэмала.** Археолагі адшукалі на тэрыторыі краіны найстаражытнае каралеўскае пахаванне майя – грабніцу VIII стагоддзя да нашай эры, калі ўзнікла гэта цывілізацыя.

**Італія.** Суд Мілана прызнаў былога прэм'ер-міністра Сільвія Берлусконі вінаватым у фінансавых махінацыях і прысудзіў з улікам амністыі 1 год турмы, 10 млн. еўра штрафу.

**Егіпет.** Толькі за адзін дзень на вуліцах егіпецкай сталіцы Каіра паліцыя арыштавала 100 чалавек, якія дамагаліся ад жанчын і іншаземак сексуальных уцех падчас свята хаджа.

**Англія.** Прафесар Манчэстэрскага ўніверсітэта Барры Купер знайшоў невядомую раней п'есу арганнай музыкі Людвіга ван Бетховена, якую ён напісаў прыкладна ў 1830 годзе.

**Кітай.** Паліцыя краіны ў выніку спецыяльнай аперацыі ліквідавала больш 700 інтэрнэт-злачынцаў з хакерскіх груповак, яны кралі сакрэтныя дадзеныя, распаўсюджвалі вірусы.

**ЗША.** Знакамітага велагоншчыка Л. Армстранга пасля пазбаўлення 7 тытулаў пераможцы гонкі "Тур дэ Франс" за прымяненне допінгу абавязалі вярнуць 4,5 млн. $ прызавых.

# Скарачэнне абаненцкай базы аператар life:) тлумачыць «чысткай ад мёртвых душ»



■ Аляксей Арэшка, БелаПАН

**Істотнае скарачэнне абаненцкай базы аператара сотавай сувязі life:) тлумачыцца «чысткай ад мёртвых душ», заявіў 8 лістапада на прэс-канферэнцыі ў Мінску генеральны дырэктар ЗАТ «БеСТ» (гандлёвая марка life:)) Ісмет Языджы.**

Колькасць абанентаў life:) за студзень—верасень 2012 года скарацілася на 800 тысяч. У канцы 2011 года ў кампаніі налічвалася 1,8 млн. абанентаў.

Гендырэктар прызнаў, што адток абанентаў быў немалым, але праблема тут не ў якасці паслуг. «Мы раздавалі сім-карты направа і налева. Але людзі мала іх выкарыстоўвалі, і статыстыка ў выніку паказвала адток абанентаў. Цяпер гэтая палітыка змянілася», — растлумачыў Ісмет Языджы.

«Факт страты тысяч абанентаў выклікаў рэзананс у прэсе. Аднак мы ўсяго толькі ачысцілі сваю абаненцкую базу ад неактыўных абанентаў, ад «мёртвых душ». Гэта не толькі палепшыла фінансавыя паказчыкі, але і дазволіла нам стаць бліжэй да нашых абанентаў, зразумець, чаго яны хочуць на самой справе і якія паслугі найбольш запатрабаваныя. Акрамя таго, пасля скарачэння неактыўных абанентаў мы ўпершыню за сваю гісторыю выйшлі на аперацыйны прыбытак», — падкрэсліў гендырэктар.

Ён звярнуў увагу, што аперацыйны прыбытак быў дасягнуты ў вельмі сціслыя тэрміны — менш як за чатыры гады з пачатку дзейнасці кампаніі.

Ісмет Языджы паведаміў, што за тры кварталы 2012 года даходы life:) выраслі на 79% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Выручка ад продажу мабільных прылад павялічылася на 190%. Найбольш значна ўзрос за студзень—жнівень сярэдні даход з абанента — на 269%.

У снежні life:) плануе адкрыць цэнтр апрацоўкі даных. Паводле слоў гендырэктара, гэты цэнтр кампанія планавала адкрыць восенню, але тэрміны яго стварэння зацягваюцца. На гэты момант закуплена неабходнае абсталяванне (перш за ўсё серверы), завяршаюцца будаўнічыя работы. Найбліжэйшым часам кампанія разлічвае перайсці непасрэдна да арганізацыі дата-цэнтра.

ЗАТ «Беларуская сетка тэлекамунікацый» — гандлёвая марка life:) — было зарэгістравана 5 лістапада 2004 года. 29 ліпеня 2008 года ўвайшло ў міжнародную групу кампаній Turkcell. Цяпер заснавальнікамі кампаніі «БеСТ» выступаюць Turkcell Group (80%) і Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Беларусі (20%).

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Міністэрства працы РБ, пацвердзіў нам. міністра В. Кавалькоў, з-за дэмаграфічнай сітуацыі прапануе павысіць пенсійны ўзрост для выхаду на адпачынак у Беларусі.

**Гомель.** Серыяй пратэстаў 400 прадпрымальнікаў гандлёвага цэнтра "Сакрэт", якіх падтрымалі ўлады, дабіліся заключэння новых дагавароў арэнды па прымальных цэнах.

**Салігорск.** Пад гарантыі ўрада Беларусі "Беларуськалій" атрымала яшчэ адзін крэдыт на 1 млрд. USD тэрмінам на 3 гады ад расійскага Ашчадбанка, каб пагасіць свае даўгі.

**Мінск.** У самым багатым горадзе краіны, каб узяць крэдыт толькі ў 10 банках на пакупку самай таннай кватэры, патрэбна ўжо мець штомесячны даход амаль 14 мільёнаў рублёў.

**Гродна.** Падчас рэпетыцыі ў Маскоўскім цырку 26-гадовая гімнастка, майстар спорту Таццяна Тур атрымала найцяжэйшыя траўмы, за пару дзён да бяды яна выйшла замуж.

**Мінск.** Акцыянеры абутковага прадпрыемства "Прамень" на пазачарговым сходзе не пажадалі аддаць свае акцыі дзяржаве, як і на "Камунарцы", якую нацыяналізавалі потым.

**Брэст.** У новым мікрараёне абласнога цэнтра кампанія "Еўраопт" адкрыла свой 100-ты па ліку супермаркет папулярнай і адной з самых танных гандлёвых сетак Беларусі.

**Мінск.** На шпілі самага высокага ў Беларусі домахмарачоса "Парус" вышынёй 133 метры ўзнялі дзяржаўны сцяг, пятую частку кватэр на 34 паверхах ужо раскупілі багацеі.

**Магілёў.** Пасля свайго закрыцця летам маёмасць вядомага завода безалкагольных напояў "Вейнянская крыніца" выставілі на продаж на аўкцыёне на агульную суму 3,35 млн. USD.

**Мінск.** Са старэйшага сталічнага аэрапорта "Мінск-1" вылецеў апошні авіярэйс на Маскву, адсюль болей не будуць ажыццяўляцца пасажырскія авіяперавозкі.

**Пінск**. На прэм'еры новага спектакля Палескага драмтэатра яго рэжысёру прыйшлося выканаць самому ролю акцёра, які перад гэтым паехаў на заробкі ў Расію.

**Мінск.** Канцэрн "Белаўтадар" выказаў занепакоенасць станам рамонту з-за недахопу сродкаў рэспубліканскіх трас, 80 % з іх патрабуюць тэрміновага капітальнага рамонту.

**Мінск.** На працягу тыдня пад дэвізам "Мы любім кіно" прайшоў XIX Міжнародны кінафестываль "Лістапад", сучаснае кіно прадставілі звыш 150 фільмаў з 40 краін свету.

**Ліда.** Міліцыя выявіла і знішчыла ў горадзе падпольную лабараторыю па вырабе наркотыкаў, перакрыла канал далейшых паставак смяротнага зелля ў сталіцу Беларусі.

**Мінск**. Новым тварам аднаго з вядучых банкаў краіны – Беларусбанка стала плыўчыха , двойчы срэбраны прызёр Лондана Аляксандра Герасіменя за кантракт звыш 100 тысяч долараў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З пачатку года ніводзін з гарадоў і раёнаў вобласці не выканаў устаноўленае заданне па ўзроўні зарплаты, са стратамі працавалі 77 прадпрыемстваў і арганізацый.

**Браслаў.** Торфабрыкетны завод "Браслаўскі" Камітэт дзяржкантролю пакараў штрафам на 239 мільёнаў рублёў за закуп абсталявання не на біржы, штрафы па 2 мільёна далі і 5 упраўленцам

**Гарадок.** Падчас тактычных вучэнняў на ваенным палігоне "Ласвіда" пры распальванні вогнішча ўзарваўся снарад, аднаму з двух параненых афіцэраў ампутавалі частку нагі.

**Глыбокае.** На базе мясцовага МКК прайшоў рэспубліканскі семінар-нарада па пытаннях энергазберажэння, вопыт глыбачан рэкамендаваны для ўкаранення па ўсёй краіне.

**Дуброўна.** Каля 20 магіл і помнікаў апаганілі ў райцэнтры два вучні 4 і 5 класаў, яны добра вучацца і з нармальных сем'яў, матэрыяльны ўрон пачалі плаціць іх бацькі.

**Талачын.** Мясцовы кансервавы завод стаў адным з лідараў па вырошчванні бульбы, накапаў 30 тысяч тон клубняў пры ўраджайнасці 387 цэнтнераў з гектара.

**Наваполацк.** Да 2-х гадоў пазбаўлення волі пагражае капітану міліцыі і маёру Следчага камітэта, якія пачалі незаконны прыватны вышук па просьбе мясцовай бізнес-ледзі.

**Верхнядзвінск.** На працягу 3-х сутак воіны Полацкага пагранатрада двойчы затрымалі ноччу чатырох нелегалаў пры спробе прайсці пешшу ў Латвію і застацца жыць у Еўропе.

**Полацк.** Пры падтрымцы ЮНЕСКА на працягу 3 дзён у горадзе праходзіла VI навукова-практычная Міжнародная канферэнцыя "Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі".

**Докшыцы.** Невядомыя вандалы абліліфарбай і апаганілі помнік жанчыны ў жалобе жыхарам вёскі Азярцы, якую гітлераўцы поўнасцю спалілі разам з людзьмі ў 1943 годзе.

**Паставы.** З пачатку года прыватная фірма "Пастпалімір" зарабіла 20 тыс. USD, толькі наводзячы парадак на гарадскім сметніку ад продажу знойдзеных другасных рэсурсаў.

**Лепель.** У рамках супрацоўніцтва з Ташырскім раёнам Лорыйскай вобласці Арменіі ў Доме рамёстваў адкрылі выставу армянскай культуры з удзелам яе прадстаўніка ў РБ.

**Наваполацк.** На слізкай дарозе вадзіцель "Сеата" не справіўся з кіраваннем, урэзаўся ў апору маста і загінуў, яго труп дасталі толькі з дапамогай спецыяльнага абсталявання.

**Докшыцы.** На 1 год суд адправіў у турму ўраджэнца раёна з Мінска, які ў родных мясцінах незаконна забіў самку кабана ў 4 эмбрыёнамі, яму наклалі і штраф 32 мільёны.

**Браслаў.** У лесе паблізу вёскі Урбаны сям'я Прошкаў з райцэнтра знайшла вельмі рэдкі грыб з Чырвонай кнігі вагой 10 кг, расце ў Аўстраліі, Паўночнай Амерыцы, на Каўказе.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Модэль «Толькі багна



Марыся і Вітольд Каржанеўскія на беразе возера Межужол.

■ Уладзімір Скрабатун

### Гэтая гісторыя пачалася год таму

Як там у Еўропе ёсць? Прыязджае чалавек у незнаёмы горад і хоча нешта адшукаць… Здагадайцеся, куды ён пойдзе па дамамогу? Зразумела, у бібліятэку, альбо музей! Па няпісанаму ў свеце правілу існуе завядзёнка – менавіта тут і знаходзяцца людзі, якія ўсё ведаюць! Яны чытаюць кнігі, збіраюць розныя дакументы аб сваім краі.

Так адбылося і ў гэтым выпадку: Вітольд і Марыся Каржанеўскія з Варшавы завіталі ў Глыбоцкую раённую бібліятэку.

– Мы хочам знайсці ў Галубіцкай пушчы месца, дзе некалі стаяў засценак Модэль Бор, там, у 1930-ыя гг, жылі нашыя родзічы Рытароўскія. Можа ў вас ёсць якія мапы, дзе той Модэль Бор пазначаны?– пытаюцца госці з Варшавы.

– Няма ў нас нічога! Ідзіце да Скрабатуна,– напэўна так адказалі ў бібліятэцы (не сумняваюся). Як бы там насамрэч і ні было, але пасля візіту ў бібліятэку палякі завіталі менавіта да мяне.

А я падумаў: а мне гэта трэба? І так часу не стае! Сваю работу, бывае, раблю ў аўральным рэжыме. Хай бы тая бібліятэка, як Ваня Сусанін, сама і вадзіла гэтых палякаў па пушчы ды шукала ў яе неабсяжных нетрах падмуркі засценка Модэль Бор.

Потым падумаў, паразважаў: "Ну, а хто ж яшчэ дапаможа гэтым польскім пенсіянерам з Варшавы, калі не я? Ды й што тады падумае Еўропа пра беларусаў наогул?"

Натуральна, Модэль Бор трэба шукаць на мапах "польскіх часоў". Аксіёма! Адкрываю польскую вайсковую мапу за 1932 год. Ёсць! Галубіцкая Пушча, возера Межужол, два-тры кіламетры на поўнач, на самым краі багнаў Вялікі Луг і Акнішча (Bagno Wielki Łuh i Bagno Okniszcze) – Модэль Бор (на мапе – Модэле (Modele). Выспа сярод багнаў!

– Так, – кажа Вітольд Каржанеўскі,– у сямейным архіве ёсць пісьмо з Модель Бора ў Варшаву. Там аднаму ахвотніку наведаць улетку Модэль Бор было рэкамендавана прыязджаць менавіта ўзімку, бо наўкола – "tylko bagno i piaski" ("толькі багна і пяскі"). Няма дарог! Дабрацца можна толькі зімнікам (зімовай дарогай) на санях. Нават нарыхтаванае лес ніхто не транспартуе ўлетку, а толькі санным шляхам узімку.

– Пачуўшы такое, штосьці мне адразу расхацелася ехаць з палякамі ды шукаць сярод "багнаў і пяскоў" камяні падмуркаў колішняга засценка Модэль Бор!

Што рабіць? Тэлефаную Аляксею Віктаравічу Протасу, начальніку міжрайінспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету.

– Няма там, Уладзімір Іванавіч, ніякіх багнаў цяпер! Усё змянілася за столькі гадоў. Добрыя лясныя дарогі,– кажа сп. Протас. – Даедзіце! Магу і інспектара з машынай разам з вамі паслаць. Няхай па дарозе яшчэ і спраўдзіць ці сваволяць там ягадныя браканьеры?

І мы даехалі. Даехалі да возера Межужол. Вось тут, недзе ў пару кіламетрах на паўночны усход і быў засценак Модэль Бор. Паньства з Варшавы было вельмі задаволенае, што было заўважна на іх тварах. На гэтым возеры родзічы Вітольда Каржанеўскага лавілі рыбу, палявалі на дзікоў і вельмі верагодна – крок у крок – ходзім мы цяпер па іх слядах. Ну, усё – мая місія выкананая! Пашукаць яшчэ падмуркі пабудоваў Модэль Бора? Дык гэта – нонсэнс! 70 гадоў прайшло! Усё парасло лесам, пакрылася мохам! Якія ўжо камяні! На цяперашняй мапе Докшыцкага раёна, якую мы набылі ў кнігарні, у гэтым месцы адзначаны лясны масіў, які падпісаны як «урочышча[1] Модэль Бор».

Прайшоў год! Адсвяткавала Глыбокае Дзень беларускага пісьменства... Ізноў чую знаёмы голас у тэлефоне: "Гэта Вітольд Каржанеўскі турбуе. Мы ўжо ў Брэсце. Едзем у Глыбокае. Хочам усё ж знайсці падмуркі Модэль Бора…"

– Во ўліп!– падумаў я,– пакуль гэтыя палякі ўрэшце рэшт не дакрануцца рукамі да камянёў падмуркаў Модэль Бора, не адчэпяцца. Трэба даводзіць пошукі да канца, зноў прыйдзецца мне (а каму ж яшчэ!) шукаць адпаведны транспарт для вандроўкі, а самае галоўнае - кіроўцу, які пагодзіцца ехаць праз пушчу па ўсялякіх калдобінах і калеях, які пакінуў транспарт лесанарыхтоўшчыкаў! Дзякуй, што пагадзіўся Саша Маліноўскі, сябра маёй дачкі, які здабыў для вандроўкі адпаведны транспарт – УАЗік.

### Модэль Бор у 1930-ыя гг

Паводле даведніка[2] па Дзісенскаму павету, які выдаў павятовы Соймік у Глыбокім (сталіцы Дзісенскага павету), у засценку Модэль Бор Докшыцкай гміны на 1 студзеня 1930 г. налічвалася 11 жыхароў, да яго належыла 7 дзесяцін зямлі. Найбліжэйшая чыгуначная станцыя Параф'янаў – 40 км; найбліжэйшая пошта ў Тумілавічах – 16 км; да сядзібы гміны ў Докшыцах – 29 км; да сядзібы павятовых уладаў, г.зн. да г.Глыбокага – 59 км. Заўважым, што на той час (1930 г) у даведніку гэтае паселішча пазначана адным словам – Модэле. Але, гаспадарамі Модэль Бора на тым часе былі яшчэ не Рытароўскія.

Як вынікае з дакументаў сямейнага архіву Вітольда Каржанеўскага, яго цётка (родная сястра маці п. Вітольда) Станіслава Габль-

**Заўвагі:**

[1] Урочышча – месца зніклай вёскі, альбо месца, якое адрозніваецца ад іншых месцаў нейкімі своеасаблівымі прыкметамі, напрыклад, рэльефам.

[2] "Skorowidz miejscowości pow. Dziśnieńskiego woj. Wileńskiego". 1930 г.



Засценак Модэль Бор, 1930-я гг. *Фота з сямейнага альбома Вітольда Каржанеўскага, Варшава.*



Засценак Модэль Бор, 1930-я гг. *Фота з сямейнага альбома Вітольда Каржанеўскага, Варшава.*



Засценак Модэль Бор, 1930-я гг. *Фота з сямейнага альбома Вітольда Каржанеўскага, Варшава.*

# Бор і пяскі»



Новы офіс Тумілавіцкага лясніцтва.

Рытароўская набыла засценак (фальварак) Модэле ў Галубіцкай пушчы 15 кастрычніка 1931 года ад Канстанціна Прашынскага, што запісана "ў кнізе вячыстай пад іпатэчным № 4008".

Далей у гэтым дакуменце, які накіраваны на адрас "Управы Р.В.Р. "Orbis" у Варшаве, Кракаўскае прадмесце, 5", паведамляецца: "Акрамя таго Канстанцін Прашынскі перадаў забеспячэнне на згаданым фальварку ў суме 60 тыс. зл. за п. Божыдара Рытароўскага і п. Мар'яна Трщінскага на карысць фірмы "Р.В.Р. "Orbis" у Львове, і ў сувязі з тым, што выканалі вышэйзгаданыя ўмовы з "Р.В.Р. "Orbis" – з дня 1 верасня – прашу выкрасліць актам згаданую вышэй суму з маёй іпатэчнай кніжкі. Прычым зазначаю, што забеспячэнне вышэй выдадзенае, было на пакрыццё стратаў, якія вынiклі з нагоды недабораў з продажу чыгуначных білетаў.

Прашу паведаміць, калі настане выкрасленне забеспячэння. З пашанай …."

У гэтым дакуменце фігуруе Божыдар Рытароўскі – муж Станіславы Габль-Рытароўскай. Дадатак "Габль" – дзявочае прозвішча, якое падкрэслівае французскае паходжанне цёткі Вітольда Каржанеўскага. Натуральна, што і пан Вітольд па маці мае французскія карані.

Праўдападобна, што з гэтага часу засценак (альбо фальварак) Модэле і пачаў называцца Модэль Бор.

Якой была гаспадарка Модэль Бора часоў Рытароўскіх? На тое ёсць адпаведныя запісы ў сямейным архіве Вітольда Каржанеўскага. Модэль Бор у сувязі з новым тэрытарыяльным упарадкаваннем ужо належыў да Галубіцкай гміны. Агульны абшар – 75,5 га: ворнай зямлі – 9,5 га; багны, якая парослая каржакаватым дрэвастоем – 26 га; вырубкі – 5 га; сасны звычайнай – каля 10 га; мешанага дрэвастою – 28 га.

Акрамя таго, як сведчаць дакументы з сямейнага архіву п. Каржанеўскага, Рытароўскія мелі свой бізнес і ў Глыбокім. Вітольд Каржанеўскі паказаў аўтару пісьмовае паведамленне на фірмовым бланку з лагатыпам "Towarzywstwa Handlu Zagranicznego "IMEX", дзе напісана – "уласнік Божыдар Рытароўскі і суполка". Аддзел таварыства – "Шлямярня ў Глыбокім" пры гарадской бойні, адрас: г. Глыбокае, вул. Кракаўская, 19. Рахунак у ашчаднай касе Дзісенскага павету ў Глыбокім. Дакумент датаваны 23.06.1937 г.

Што такое "шлямярня"? Пан Вітольд патлумачыў, што ў шлямярні рабілі падзел пяску (ці жвіру) на фракцыі шляхам прамыву яго вадой. Але пры чым тут глыбоцкі мясакамбінат (г.зн. бойня)? Між тым нагадаем, што вул. Кракаўская, – гэта сённяшняя Савецкая, а ашчадная каса – цяперашняя кантора Глыбоцкага кансервавага завода, дзе на прыступках другога паверху і сёння існуе мазаіка з надпісам "Ашчаджай".

### Дзякуй усім!

Зразумела, потым гэта стала і відавочным, Модэль Бор, без дапамогі ляснічага, мы не знайшлі б! Але куды звяртацца па дапамогу? Гэта ж Докшыцкі раён! У Докшыцы? Бягомль? Якое гэта лясніцтва?

Тэлефаную няўрымслівому вандроўніку і краязнаўцу Косцю Шыталю: "Урочышча Модэль Бор – якое там лясніцтва?"



Галубіцкая пушча, Юнацкая грэбля. Памятны знак на польскай мове, які ўсталяваны ў 1936 годзе з нагоды сканчэння будаўніцтва грэблі. Рыгор Пяцько, ляснічы, робіць спробу прачытаць тэкст, які пашкоджаны выбоінамі ад кулямётных чэргаў.

– Тумілавіцкае. Хоць і Докшыцкі раён, але лягсас Глыбоцкі,– усцешвае Косця.

То тады ўсё проста! Дзякуй Богу, не трэба ехаць ні ў які Бягомль! Усё вырашаецца на месцы.

Супрацоўнікі Глыбоцкага доследнага лягсаса Іван Дубовік, інжынер па ахове лесу і Дзяніс Самуйла, начальнік лесапункта, паставіліся да нашага візіту добразычліва. Паказалі план ляснога масіву, дзе знаходзіўся некалі засценак Модэль Бор. Спадар Дзяніс намаляваў нам вельмі падрабязную схему маршруту з усімі яго адметнасцямі, патэлефанаваў Рыгору Пятровічу Пяцько, ляснічаму Тумілавіцкага лясніцтва, і папрасіў аказаць дапамогу ў пошуках Модэль Бора.

– Рыгор Пятровіч працуе ў лясніцтве 36 гадоў. Усё ведае на сваім участку Галубіцкай пушчы! Пакажа!– тлумачыць Дзяніс Самуйла.

І мы паехалі ў Тумілавічы.

### Прытулак у пушчы

Офіс Тумілавіцкага лясніцтва – прыгожы сучасны будынак, які разам са старадаўняй драўлянай царквой уяўляюць сабой цікавосткі паселішча. А якія смачныя ў ляснічага яблыкі! Салодкія, як цукар, сакавітыя! Ясі – і есці хочацца!

– Пушча давала прытулак усім, хто ў гэтым меў патрэбу,– кажа па дарозе ў Модэль Бор Рыгор Пятровіч. – Небяспечна было жыць людзям на хутарах паблізу пушчы ці на яе ўскрайку... Былі ж розныя партызаны. Адны змагаліся за ідэю, ваявалі з немцамі, гінулі ў баях... А былі ж і банды, якія выдавалі сябе за партызанаў, а насамрэч займаліся рабункамі мясцовага насельніцтва, забіралі апошняе. А потым прыходзілі разбірацца немцы. Расстрэльвалі мясцовых жыхароў за перахоўванне і падтрымку бандытаў ці партызанаў. Даставалася ад тых і тых. Той, хто пайшоў хавацца ў глыб пушчы, выжыў і сустрэў вызваленне.

У Докшыцах некалі жыло да шасці тысяч яўрэяў… Равін сказаў: "Трэба ісці ў гета, як загадваюць немцы. Такі наш лёс!" Раз равін сказаў – яўрэі пайшлі. Але не ўсе! Некаторыя з яўрэяў не сталі слухаць равіна, пайшлі партызаніць у Галубіцкую пушчу. Толькі гэтыя яўрэі і выжылі!

### Юнацкая грэбля

Галубіцкая пушча – дно колішняга вялікага прыледавіковага прэснаводнага мора. Апошні Валдайскі ледавік, які займаў толькі поўнач Беларусі, праходзіў па лініі: Орша – возера Лукомльскае – паміж Глыбокім і Докшыцамі (Варганская гара) – Мядзел… 10 000 гадоў таму ледавіковы перыяд скончыўся, 2-кіламетровай таўшчыні ледавік пачаў таяць і незваротна выходзіць на Поўнач. У края ледавіка і ўтварылася разлеглае возера-мора. Рэкі Бярэзіна і Шоша за тысячагоддзі вынеслі воды гэтага мора. Засталіся пяскі і багна, якія накрыла Галубіцкая пушча. З цягам часу ў пушчы пачалі з'яўляцца хутары, засценкі і фальваркі. Трэба было неяк камунікаваць паміж сабой. Але як? Наўкола – багна! Узімку, калі ўсё пакрываецца лёдам і снегам, можна санным шляхам. А ўлетку?

Па дарозе з Тумілавічаў у Модэль Бор ляснічы Тумілавіцкага лясніцтва Р.П. Пяцько, які проста ўразіў усіх сваім веданнем мясцовай гісторыі, прапанаваў невялікую экскурсію па грэблю, якая, нібы накрэсленая пад лінейку, як нацягнутая струна, праразае багну ў Галубіцкай пушчы і ідзе далей па сушы – паўз пясчаныя дзюны – ужо добрай дарогай на Ліпава.

– У 1930-я гг польскія "камсамольцы",– жартуе Рыгор Пятровіч,– пачалі будаваць грэблю, якую яшчэ й сёння клічуць Юнацкай грэбляй. Зразумела, што не "камсамольцы" гэта былі насамрэч, але аналагічная польская моладзевая арганізацыя. Гацілі багну бярвеннямі і фашынай, вазілі коннымі вазамі пясок, адсыпалі дарогу. А ў гонар узвядзення грэблі – паставілі збоч дарогі невялікі памятны знак.

Грэбля давала магчымасць наўпроставага праезду праз пушчу ад Ліпава да Тумілавічаў і далей, да Докшыцаў. Больш таго, побач у 3-5 км на ўсход праходзіла мяжа з вельмі неадэкватным па тым часе суседам – СССР. А гэта – не жартачкі! Бандыты, кантрабандысты, перабежчыкі з аднаго й другога боку, бальшавіцкія прапагандысты, якія пранікалі праз мяжу і баламуцілі свядомасць тубыльцаў сваімі аповядамі пра савецкі рай. І шмат хто паверыў, пайшоў на той бок мяжы. І, дзе тыя людзі падзеліся? Ніводзін не вярнуўся, і лёс іх невядомы. Мабыць, расстралялі наіўных як "польскіх шпіёнаў і дыверсантаў" альбо Беламорканал павезлі будаваць…

– Тут у часе апошняй вайны была партызанская зона,– працягвае аповяд Рыгор Пятровіч. – Немцы так і не змаглі даць рады партызанам. Уявіце сабе, напрыклад, на грэблі партызаны падбіваюць нямецкі танк, ён гарыць… І, усё – катастрофа! Не аб'ехаць, не развярнуцца назад: грэбля вузкая, справа і злева – багна! Мяшок! Немцы так і не сунуліся сюды за ўсю вайну.

А што цяпер? Цяпер ізноў: справа-злева – багна! Усе каналы, якія некалі выкапалі для асушэння балотаў, сёння запрудзілі бабры. Цэлы бярозавы гай збоч грэблі стаіць у вадзе сухастоем!

– Будзем узімку пілаваць на дровы,– рэзюмуе ляснічы.

*Працяг будзе.*




Камп'ютарная апрацоўка фотаздымка часткі Галубіцкай пушчы з космасу. Крыніца: Google Earth.

